# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№8 (267)
жнівень 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"







# КРАЎДФАНДЫНГ НА СПЕКТАКЛЬ ПАВОДЛЕ УЛАДЗІМІРА АРЛОВА

Каманда беларускіх творцаў збірае грошы на пастаноўку прытчы-казкі па матывах твора Уладзіміра Арлова "Ордэн белай мышы" – гэта тэатральны эксперымент і пошук актуальнай размовы пра беларусаў праз спалучэнне тэксту класіка беларускай літаратуры і актуальных тэкстаў сучаснай драматургіі.

"Гэты спектакль – размова пра час і пра сябе. Як мы жывем сёння і што нас чакае ў будучыні. Мы паразважаем на тэму мастака і ўлады ў сучасным грамадстве. Жанр прытчы-казкі абраны не выпадкова. Бо, калі разважаеш на сур'ёзныя тэмы, заўсёды знойдзецца месца для гумару, іроніі і самаіроніі, жартаў і больш лёгкага ўспрымання рэчаіснасці", – тлумачаць аўтары праекта.

Каманда праекта плануе на працягу бліжэйшых шасці месяцаў паказаць спектакль больш за 10 разоў у Варшаве і іншых польскіх гарадах. А таксама выехаць на гастролі ў Еўропу.

Каманда праекта:

Ігар Сігоў – акцёр тэатра і кіно, тэатральны праект "Вольныя Купалаўцы".

Святлана Зелянкоўская – актрыса тэатра і кіно, тэатральны праект "Вольныя Купалаўцы".

Андрэй Бардухаеў-Арол – акцёр, Цім тэатр.

Дзіяна Балыка – драматург, паэтка, псіхолаг. Дэбют на тэатральнай сцэне.

Уладзімір Ушакоў – рэжысёр і кіраўнік Сучаснага мастацкага тэатра ў Мінску і Беларускага тэатра у Кіеве.

Раман Арлоў – артыст, кампазітар.

Павел Семчанка– мастак, заснавальнік "Інжынернага Тэатра АХЕ", уладальнік Фінскай тэатральнай прэміі.

Аляксандр Образаў – прадзюсар праекта.

budzma.org

Падтрымаць тэатральны праект можна тут.

**кнігі**

# ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ НУМАР АЛЬМАНАХУ "АПОСТРАФ"




Да чытача прыйшоў новы літаратурна-мастацкі альманах – "Апостраф". У першым нумары выдання можна прачытаць аповесць Алеся Пашкевіча, вершы Насты Кудасавай, ліставанне Васіля Быкава – і гэта добры аванс для ўсіх аматараў прыгожага пісьменства!

"Апостраф" прапаноўвае чытачу шэраг вартых рэчаў:

• твор Алеся Пашкевіча "Цэсляр волі", біяграфічную аповесць пра паэта і палітыка Алеся Гаруна;
• прозу Уладзіміра Сцяпана, Іны Снарскай, Валера Гапеева, Алены Вешторт, Алега Дашкевіча;
• паэзію Насты Кудасавай, Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Дуброўскага, Аксаны Данільчык, фрэскі Барыса Пятровіча;
• пераклады Артура Бартэльса ад Віктара Гардзея, Фёдара Цютчава ад Міколы Гіля, Міхаіла Шлейхера ад Змітра Вішнёва;
• ліставанне Васіля Быкава з сястрой Валянцінай;
• словы Адама Глобуса пра мастака Сяргея Каткова;
• эсэ Васіля Аўраменкі пра Уладзіміра Караткевіча…

І шмат іншых цікавостак.

Набыць "Апостраф" можна ў анлайн-кнігарні "Камунікатa" (kamunikat.shop).

bellit.info

# ВЫЙШЛА АЎТАБІЯГРАФІЧНАЯ КНІГА СЯРГЕЯ ДУБАЎЦА

У пражскім выдавецтве Vesna выйшла з друку новая кніга пісьменніка і журналіста Сяргея Дубаўца "Занзібар" з падзагалоўкам "Сталенне маладой душы". Такой навіной падзяліўся ў фэйсбуку сам аўтар.

"Як распавесці сваю гісторыю і не занудзіць чытача? Вельмі проста. Трэба за той самы час расказаць мноства гісторый, дзе будзе шмат персанажаў і сюжэтаў (абавязкова пра любоў), розных жанраў і падарожжаў як у часе, так і ў прасторы, будуць кантэксты і амаль не будзе цябе самога, бо ўсё гэта разам і будзе – твая гісторыя, сведкам і ўдзельнікам чаго ты быў сам, і што не выпала з памяці", – цытуе Сяргея Дубаўца выдавецтва Vesna.

"Занзібар" – гэта аўтабіяграфічны тэкст пра тое, як малады чалавек у 80-я гады адкрывае для сябе беларушчыну. У кнізе многа пра нефармальныя арганізацыі тых часоў: ад "Майстроўні" ды "Талакі" да літаратурнага аб'яднання "Тутэйшыя". Разам з тым, гэта не проста настальгічныя нататкі, аўтар праводзіць паралелі з сучаснасцю, беларускай рэчаіснасцю 2020-х гадоў.

Фрагмент кнігі Сяргея Дубаўца "Занзібар" можна пачытаць на сайце інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат" у 127-м нумары часопіса "Дзеяслоў".

bellit.info







# БЕСТСЕЛЕР ЭНДЗІ ЎІРА "МАРСІЯНІН" ВЫЙШАЎ ПА-БЕЛАРУСКУ

Бестселер Эндзі Ўіра "Марсіянін" з'явіўся адразу ў трох фарматах – папяровым, электронным і аўдыя. Так-так, той самы, паводле якога быў зняты фільм з Мэтам Дэйманам, што разляцеўся на мільёны мемаў.

Пераклад і выданне кнігі сталіся магчымымі дзякуючы супрацы Асацыяцыі Беларусаў у Амерыцы, выдавецтва "Gutenberg Publisher" і аўдыявыдавецтва Audiobooks.by. А таксама дзякуючы фінансавай падтрымцы беларусаў і беларусак ЗША – Мікіты, Юрыя, Марыянны, Каці і Сяргея.

Перакладчык кнігі пажадаў застацца пакуль ананімным, але падзяліўся ўражаннямі:

"Хтосьці скажа, што "Марсіянін" – ня самая неабходная сёння кніга па-беларуску і ёсць процьма іншых праграмных і больш сур'ёзных твораў, якія спярша хацелася б мець у перакладзе, але, на маю думку, якраз такой літаратуры – сучаснай, прыгодніцкай, папулярнай, даступнай і цікавай шырокаму колу чытачоў – нам і бракуе. Ня буду хаваць, як перакладчык я атрымаў сапраўднае задавальненне, працуючы над гэтым тэкстам, і, нягледзячы на пэўныя цяжкасці, мне самому да апошняй старонкі было цікава. Таму спадзяюся, што і чытачы атрымаюць не меншае задавальненне ад гэтай неймавернай і кранальнай гісторыі, якая дае нам надзею і прыклад веры ў чалавека і чалавецтва".

А вось, што кажа прадзюсар праекта, кіраўнік аўдыявыдавецтва Audiobooks.by Мікіта Белаглазаў:

"Па-першае, усіх віншую з выданнем яшчэ адной кнігі па-беларуску. Лёгкай, цікавай фантастыкі. Выданнем гэтай кнігі мы, Асацыяцыя Беларусаў у Амэрыцы, плануем пачаць серыю перакладаў розных амерыканскіх бэстсэлераў на беларускую. Па кнізе на год-два. І, спадзяюся, натхнім і іншыя дыяспары і арганізацыі".

Дзе знайсці кнігу (выдавецтвы звяртаюць увагу, што ўсе фарматы кнігі ў продажы – у платным доступе)

Папяровая (https://gutenbergpublisher.eu/shop/marsijanin/).

Для жыхароў ЗША (https://litarka.com).

Электронная (https://www.kobo.com).

Аўдыя (https://audiobooks.by/books/marsijanin).

budzma.org

кнігі

# ФАТОГРАФ СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН АНАНСАВАЎ ВЫХАД ФОТАКНІГІ-АРХІВА АБ УЛАСНЫМ ДОСВЕДЗЕ ЭМІГРАЦЫІ

"Постбеларус" – праектам аб уласным досведзе эміграцыі беларускі фатограф і медыямастак Сяргей Гудзілін займаецца ўжо амаль год. "Жыву і калекцыяную артэфакты жыццядзейнасці з музейнай пільнасцю", – прызнаецца творца. Праверыць на жыццяздольнасць праект як патэнцыйную фотакнігу-архіў аўтар вырашыў сёння на платформе Patreon.

"Не тое, каб гэта была ўжо мара (хто ў эміграцыі кніг не піша, га?), але пачаў абрастаць у сваім экзылі ўсялякім смеццем, якое, пры больш пільным паглядзе, з'яўляецца зусім і не смеццем, – распавёў пра аб'екты калекцыянавання былога і актуальнага жыцця Сяргей Гудзілін. – Нешта прывезлася з сабой у кішэнях, тэчках і на донцах валізак. Ну дык во – жыву і калекцыяную артэфакты жыццядзейнасці з музейнай пільнасцю".

У кнізе-прататыпе аўтара "сабраныя" – квіткі з Беларусі і Літвы, жэтоны, абгорткі ад цукерак, металічныя фіксатары з датай вырабу хлеба, з якімі той прадаецца ў замежжы, тэст на кавід, сімка – маленькія рэчы-дэталі, з якой складалася жыццё "да" і "пасля" эміграцыі. Фатаграфія пакуль прадстаўлена ў архіве палароідными здымкамі.



Старонка з кнігі-прататыпа

Мастак падзяліўся, што пакуль назва кнігі мысліцца толькі адна – "Постбеларус".

"Хочацца, канечне, праз гэны бук інтэлектуальна разгарнуць назву ў цэлы этычна-эстэтычны канструкт і стаць класікам", – дадае з пэўнай самаіроніяй аўтар.

Сяргей Гудзілін абвяшчае "піжонскі дызайн" кнігі – "поўнасцю чорныя старонкі з белым тэкстам".

Сяргей Гудзілін – фатограф, лічбавы і медыямастак з Жодзіна. Пачынаў са здымак спартовых падзей, некалькі гадоў супрацоўнічаў з беларускімі і міжнароднымі медыя. Уладальнік Гран-пры *Belarus Press Photo* (2011), прэміі "Прафота" (2020). Ягоныя фатаграфіі публікаваліся ў *The New York Times* (ЗША), *Gazeta Wyborcza* (Польшча), *Nasha Niva* (Беларусь), *Svenska Dagbladet* (Швецыя), *Stern Online* (Германія), *National Geographic* (ЗША) і іншых СМІ. Найбольшым захапленнем Сяргея Гудзіліна з'яўляецца фіксацыя паўсядзённага жыцця асобных супольнасцей з дапамогай медыятэхналогій і навукова-мастацкіх практык

**reform.news.**

Пазнаёміцца з праектам "Постбеларус" і падтрымаць яго можна тут.

# ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ ФІЛОСАФА УЛАДЗІМІРА ФУРСА ВЫЙШЛІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Кніга выбраных твораў філосафа Уладзіміра Фурса "Беларусь у святле сучаснай крытычнай сацыяльнай тэорыі" ў перакладзе на беларускую мову выйшла ў выдавецтве "Логвінаў". Пра выхад кнігі паведаміў на сваёй старонцы ў фэйсбуку філосаф, кандыдат навук Павел Баркоўскі.

"Вось хтосьці пэўна прывёз з Вільні з Канферэнцыі Новай Беларусі новыя ўражанні, хтосьці – успаміны пра вандроўкі па старым горадзе ці сустрэчы з сябрамі і знаёмымі, якіх цяпер у Літве часам больш, чым засталося ў Беларусі, а я ж таксама – не самотны, бо кнігу маю", – напісаў Павел Баркоўскі.

"Лічу, што ў плане амбіцый і ідэй ён бы мог відавочна быць акадэмічнай зоркай Беларусі, беларускім Баўманам ці Кастарыядысам, калі б лёс склаўся крыху лепей да яго. Тым не менш, на свае часы ён быў, а можа і дасюль застаецца найбольш цікавым сацыяльным тэарэтыкам у Беларусі – са сваімі вельмі жорсткімі і іранічнымі тэкстамі, цвярозымі ацэнкамі сітуацыі і разуменнем важнасці сацыяльна-філасофскай аналітыкі для змены сацыяльных стэрэатыпаў і ментальных схем сярод беларусаў", – адзначае Павел Баркоўскі.

Кніга выйшла пад рэдакцыяй Веранікі Фурс і Андрэя Ралёнка.

Навінку можна знайсці ў Вільні, але неўзабаве зборнік можна будзе ўбачыць на фестывалі інтэлектуальнай кнігі *Pradmova*.

**budzma.org**

# ВЫЙШАЎ ДРУГІ ТОМ "ГІСТОРЫІ ГАНДЛЮ"

Выдавецтва Vesna паведаміла пра выхад другога тому фундаментальнай манаграфіі "Гісторыя рознічнага гандлю ў Беларусі".

Аўтары раздзелаў манаграфіі (Таццяна Валодзіна, Вольга Волкава, Андрэй Кіштымаў, Ларыса Лаўрэенка, Уладзімір Лобач, Валянціна Мятліцкая (Лебедзева), Сяргей Сергачоў, Андрэй Чарнякевіч, Захар Шыбека) даследуюць рознічны гандаль у Беларусі паводле адзінай структурнай мадэлі. Яна складаецца з пяці асноўных кірункаў:

1) Аналіз гістарыяграфіі і крыніц;

2) Агляд спажывецкага рынку, на якім фармаваўся і развіваўся гандаль;

3) Умовы, якія традыцыйна існавалі або былі створаны намаганнямі ўладаў для ажыццяўлення рознічнага гандлю;

4) Сам рознічны гандаль з асобым акцэнтам на дзейнасць і майстэрства гандляроў;

5) І нарэшце, на сцэну выводзіцца таксама важны актар рознічнага гандлю – спажывец з яго ўзаемаадносінамі з гандлярамі і роляй на спажывецкім рынку.

Другая кніга даследуе перыяд ад 1861 да 1920 года. "Том ахапляе самы шалёны і галавакружны перыяд беларускай гісторыі – узлёт і падзенне імперыі, вялікая вайна, адна, другая, трэцяя акупацыі, крывавы падзел краю напалам… Як жылося людзям? Што куплялі, елі, пілі, у што апраналіся, чым забаўляліся – у гэтай вялікай навуковай працы расказваецца пра гэта вось усё", – інтрыгуе паблік выдавецтва.

Кніга даступная пакуль што толькі напрасткі праз кантакт з выдавецтвам (vesnav@seznam.cz).

**bellit.info**

**навіны**

# 35-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

З 31 жніўня да 2 верасня 2024 года ў Таронта прайшла 35-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Арганізатары сустрэчы – Згуртаванне Беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА). Традыцыя сустрэч беларускай дыяспары Канады і ЗША, што адбываюцца кожныя два гады, пачалася ў 1952 годзе, калі прадстаўнікі абедзвюх краін сабраліся на канадскім баку Ніагарскага вадаспаду. Гэта адна з найбуйнейшых і прадстаўнічых беларускіх падзей у замежжы, арганізаваная дыяспарай і для дыяспары. На сустрэчу прыехалі беларусы Канады і ЗША, прадстаўнікі дыяспарных арганізацый і фондаў, бізнэсоўцы, даследчыкі і навукоўцы, творчыя калектывы.




Удзельнікаў сустрэчы вітала Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла. Таксама быў зачытаны прывітальны ліст ад Зянона Пазняка. У саміце прынялі ўдзел дарадца Офісу Святланы Ціханоўскай Франак Вячорка і дарадца Святланы Ціханоўскай па эканамічных рэформах Алесь Аляхновіч.

Упершыню афіцыйным інфармацыйным партнёрам мерапрыемства стаў "Белсат", рэпартажы пра сустрэчу глядзіце на іх ютуб-канале. У якасці інфармацыйнага партнёра удзельнічаў Аляксандр Івулін – футбаліст, журналіст і блогер.

Сустрэча адбылася ў зале *GVA Lighting*, пасляховага высокатэхналагічнага бізнесу, які стварыў беларускі інжынер і прадпрымальнік Уладзімір Грыгорык. *GVA Lighting* распрацоўвае і вырабляе ўнікальныя сістэмы для падсветкі архітэктурных аб'ектаў, спалучаючы передавыя тэхналогіі, навуку і мастацтва, каб падкрэсліць харатво пэрлінаў сусветнай архітэктуры: Луўр, Лінкальн-Цэнтр, Таўэрскі мост і яшчэ дзясяткі аб'ектаў у розных краінах свету.

На сустрэчу прыехалі прэзідэнтка Асацыяцыі Беларусаў у Амерыцы Ганна Шарко і іншыя сябры Галоўнай Управы. Зараз сябры АБА знаходзяцца ў 25 гарадах з 14 штатаў Амерыкі. Сярод іх лідары беларускіх суполак, кіраўнікі беларуска амерыканскіх нонпрофіт-арганізацый і ініцыятыў і вядомыя беларускія дзеячы ў ЗША. Пры падтрымцы Асацыяцыі беларускага бізнесу за мяжой (ABBA) адбылася бізнес-панэль з'езду. Удзельнікі сустрэчы падзяліліся ідэямі падчас панэльных дыскусіі аб супраца дыяспары, незалежных медый і бізнес-супольнасці. Гасцей чакалі прыемныя сюрпрызы ад вядомых бізнесоўцаў і блогераў, прэзентацыі аб выбітных беларусах з дыяспар ЗША і Канады, выступы вядомых беларускіх навукоўцаў і даследчыкаў, вялікі канцэрт канадскіх і амерыканскіх музыкаў.

На трэці дзень адбылася экскурсія да Беларускага Крыжа ў Мідлэндзе, помніка пакутнікам за волю Беларусі і загінулым у Курапатах. Была праведзена служба святаром Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

Спіс удзельнікаў сустрэчы ўражвае:

- Рада Беларускай Народнай Рэспублікі;
- Аддзелы Згуртавання Беларусаў Канады – Атавы, Манрэаля, Альберты;
- Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Парафія Св Кірылы Тураўскага;
- Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне БАЗА Вашынгтон, Флорыда, Нью-Ёрк;
- Асацыяцыя Беларусаў у Амерыцы АВА;
- Асацыяцыя Беларускага Бізнесу за Мяжой ABBA;
- Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва імя Скарыны БІНІМ Канада;
- Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва імя Скарыны БІНІМ ЗША – Юрась Кіпель;
- Фундацыя Крэчэўскага – Валянціна Трыгубовіч;
- Выдавецтва "Скарына Прэс" – Ігар Іваноў;
- Выдавецтва "Грунвальд" – Вольга Яноўская;
- Беларусы Чыкага – Жана Чарняўская;
- Беларусы Остына – Сяргей Адзінец;
- Кіраўнік фонду BYSOL – Андрэй Стрыжак;
- Ініцыятыва *INeedHelpBY* – Піліп Гаўрышаў;
- Дарадца Офісу Святланы Ціханоўскай – Франак Вячорка;
- Дарадца Святланы Ціханоўскай па эканамічных рэформах – Алесь Аляхновіч;
- Сябра Каардынацынай Рады трэцяга склікання Марыя Яфімава;
- Тэлеканал Белсат – Сяргей Падсасонны;
- Блогер і спартовы журналіст Аляксандр Івулін;
- Грамадская ініцыятыва "Вольныя" – Вераніка Станкевіч;
- Беларускі расследавальніцкі цэнтр – Бектур Ісკэндэр.

Згуртаванне беларусаў Канады дзякуем кампаніям, арганізацыям і людзям, без якіх Сустрэча магла б і не атрымацца, спонсарам і партнёрам: *GVA Lightning* (інавацыйныя LED-сістэмы архітэктурнага асвятлення); *DK Transportation* (грузавыя перавозкі па Канадзе і Злучаных штатах); Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, Парафіі Св. Кірылы Тураўскага; амбасадару Асацыяцыі Беларускага Бізнесу за Мяжой у Мінэсоце, заснавальніку і CEO *Wine&Spirits* – Віктару Шаўчуку; сябру Асацыяцыі беларускага бізнесу за мяжой, заснавальніку *Flatlogic* – Філіпу Дайнэку; сябру Асацыяцыі беларускага бізнесу за мяжой, заснавальніку *GEV* – Віталю Самсонаву; генеральнаму дырэктару *SOKOL GXP Services* – Антону Бялянскаму.

**Паводле belarusians.ca**

# БЕЛАРУСЫ АМЕРЫКІ ДАПАМАГЛІ ВІЛЕНСКАЙ "ЧЫТАЛЬНІ"

Фундацыя імя Пётры Крэчаўскага передала ў кнігазбор "Чытальні", якая месціцца ў віленскім Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча, калекцыю выданняў паваеннай эміграцыі. Многія з перададзеных кніг з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Кнігі ўжо знайшлі месца на паліцах бібліятэкі і іх можна браніраваць у анлайн-каталогу на адмысловым сайце Cytalnia.com. Каманда "Чытальні" запрашае дакрануцца да сапраўдных каштоўнасцяў, якія дабраліся да Вільні з-за Атлантыкі, дзякуючы намаганнямі адданых беларушчыне людзей.

Фундацыя, якая носіць імя трэцяга старшыні, а пазней Прэзідэнта Рады БНР Пётры Крэчаўскага, была заснаваная беларусамі ў 1958 годзе ў ЗША як некамерцыйная навукова-культурная арганізацыя. Ініцыяваў яе стварэнне Мікола Абрамчык, тагачасны старшыня Рады БНР. А ў рэгістрацыі Фундацыі ў 1959 годзе ўзялі ўдзел самыя розныя прадстаўнікі беларускай эміграцыі – скарыназнавец Вітаўт Тумаш, літаратуразнавец і гісторык Антон Адамовіч, грамадскі дзеяч Кастусь Мерляк, вайсковец Віталь Кажан і паэтка Наталля Арсеннева.

Фундацыя паслядоўна і пасляхова дзейнічае да сённяшняга дня: арганізуе і падтрымлівае вывучэнне беларускай спадчыны, спрыяе выданню навуковых кніг і ўспамінаў, мае архівы і бібліятэку ў Нью-Ёрку (Куінс).

"У Фундацыі Крэчаўскага дзесяцігоддзямі старанна збіраюцца і захоўваюцца матэрыялы і архівы пра гісторыю, культуру і традыцыі Беларусі, у тым ліку кніжныя выданні. Мы даўнія сябры і партнёры. Асобнікі, што мы атрымалі ад Фундацыі для бібліятэкі і музея, насамрэч вельмі аўтэнтычныя і адметныя. Мы шчыра ўдзячныя за такі клопат пра чытацкую супольнасць у Вільні", – тлумачыць дырэктарка віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча Людвіка Кардзіс.

**bellit.info**

**навіны**

# БЕЛАРУСАЎ У ЧАЦВЁРТУЮ ГАДАВІНУ ВЫБАРАЎ ПАДТРЫМАЛІ БОЛЬШ ЗА 20 КРАІН

Раней Святлана Ціханоўская абʼявіла 9 жніўня 2024 года Днём салідарнасці з Беларуссю з нагоды чацвёртай гадавіны скрадзеных дыктатарам прэзідэнцкіх выбараў і пачатку барацьбы беларускага народа за свабоду ў краіне.



Учора заявы ў падтрымку дэмакратычнай Беларусі зрабілі прадстаўнікі Літвы, Швецыі, Фінляндыі, Нарвегіі, Латвіі, Польшчы, Эстоніі, ЗША, Вялікабрытаніі, Украіны, Германіі, Канады, Ірландыі, Чэхіі, Нідэрландаў, Славеніі, Аўстрыі, Ісландыі, Італіі, Францыі, Грузіі, Аўстраліі, а таксама прэзідэнтка Еўрапарламента і дэпутаты партый ад розных краін, чыноўнікі Еўракамісіі.

Што казалі міжнародныя лідары, палітыкі і дыпламаты ў Дзень салідарнасці з Беларуссю?

Прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа:

"Чатыры гады ад пачатку рэпрэсій Лукашэнкі супраць беларускага народа, які стаў на абарону свабоды і дэмакратыі. Літва стала домам для Ціханоўскай і многіх беларусаў, якія ўцякалі ад пераследу. Мы верым у дэмакратычную будучыню Беларусі. Дух свабоды заўсёды перамагае"!

Сумесная заява ўрадаў ЗША, Канады, ЕС і Вялікабрытаніі:

"Праз чатыры гады пасля фальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў 2020 года і жахлівых парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, Злучаныя Штаты Амерыкі, Канада, Еўрапейскі Саюз і Вялікабрытанія выказваюць салідарнасць з народам Беларусі, які, нягледзячы на рэпрэсіі, якія праводзяцца з боку рэжыму Лукашэнкі, мірна і мужна дамагаецца дэмакратычных змен, павагі да правоў чалавека і вызвалення ўсіх палітычных зняволеных. Мы пацвярджаем, што санкцыі, нядаўна абвешчаныя намі, уяўляюць сабой скаардынаваныя шматбаковыя намаганні па прыцягненні рэжыму Лукашэнкі да адказнасці".

Міністр замежных спраў Швецыі Тобіяс Більстром:

"Прайшло чатыры гады з таго моманту, як рэжым Лукашэнкі незаконна і жорстка скраў выбары ў Беларусі. Але Швецыя будзе падтрымліваць беларускі народ і яго бясспрэчнае права зноў набыць дэмакратыю і свабоду. Святлана Ціханоўская – лідар беларускай дэмакратычнай апазіцыі, і мы падтрымліваем яе".

Міністэрства замежных спраў Германіі:

"Сёння спаўняецца чацвёртая гадавіна фальсіфікаваных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, калі сотні тысяч смелых людзей выйшлі на вуліцы ў падтрымку дэмакратыі. Мы іх не забылі. Як і Ціханоўская, чыя нястомная праца працягвае даваць многім людзям у Беларусі мужнасць і надзею, нягледзячы на вялізныя рэпрэсіі. Гэта глыбока ўражвае нас, сказала [міністарка] Бербак. Мы ўзгадваем усіх тых, хто незаконна знаходзіцца ў зняволенні, часта без магчымасці звязацца з блізкімі. Ідэю свабоды і дэмакратыі нельга замкнуць. Мы працягнем дабівацца іх вызвалення. #StandWithBelarus".

Міністарка замежных спраў Ісландыі Тордзіс Колбрун Рэйкф'ёрд Гільфадоўцір:

"Чатыры гады таму рэжым у Беларусі арганізаваў фальшывыя выбары. У Лукашэнкі няма ніякай легітымнасці. Махляры не маюць права зваць сябе пераможцамі. Кожны дзень смелыя людзі, такія як мой сябар Ціханоўская, даказваюць, што ў народа Беларусі ёсць надзея".

Прадстаўнік Савета нацыянальнай бяспекі ЗША Джон Кірбі:

"З моманту ўступлення на пасаду прэзідэнт Байдэн ясна даў зразумець: ЗША цвёрда падтрымліваюць народ Беларусі ў яго імкненні да дэмакратычнай будучыні. ЗША працягнуць адстойваць правы чалавека і свабоду выказвання меркаванняў у Беларусі, а таксама прыцягваць рэжым Лукашэнкі да адказнасці за яго дзеянні. <…> Як сказаў прэзідэнт лідарцы беларускай апазіцыі: мы працягнем падтрымліваць народ Беларусі ў яго смелым імкненні да дэмакратыі".

Сенатарка ЗША Джын Шэйхін:

"Сёння спаўняецца 4 гады з таго часу, як махлярскія выбары ў Беларусі пакінулі марыянетку Пуціна, Лукашэнку, ва ўладзе. ЗША працягваюць прызнаваць Ціханоўскую законна абраным лідарам Беларусі і будуць цвёрда падтрымліваць тых, хто змагаецца за свабоду ў Беларусі".

Парламенцкая група "За дэмакратычную Беларусь!" Вярхоўнай Рады Украіны:

"<…> Група Вярхоўнай Рады "За дэмакратычную Беларусь!" паслядоўна выступае за асуджэнне фактычнай акупацыі Беларусі Расіяй і заклікае Прэзідэнта Украіны, Кабінет Міністраў Украіны і Вярхоўную Раду Украіны прызнаць гэта на дзяржаўным узроўні. Мы таксама заклікаем краіны-партнёры падтрымаць беларусаў, якія працягваюць змагацца з рэжымам як унутры Беларусі, так і за яе межамі. Жыве Беларусь! Слава Украіні!".

tsikhanouskaya.org

# ІМПРЭЗА ПАМЯЦІ ЛЯВОНА БАРАЗНЫ Ў ВАРШАВЕ

Імпрэза памяці забітага 15 жніўня 1972 года ў цэнтры Мінска мастака, аднаго з лідараў нацыянальна-культурніцкага руху, Лявона Баразны, адбылася ў касцёле Святога Аляксандра ў Варшаве.



Галоўным спікерам імпрэзы быў лідар "Вольнай Беларусі", блізкі сябра Баразны Зянон Пазняк. Ён расказаў пра сапраўднага беларускага патрыёта, які глыбока разумеў, што такое нацыянальная ідэя:

– У 40-я гады працягвалася тая самая рэпрэсіўная палітыка, якая была ў 30-я, толькі гэта рабілі савецкія партызаны, знішчалі ўсё нацыянальнае. І вось пачатак 50-х гадоў, толькі-толькі новае пакаленне пачало ўсё адраджаць, тут і паявіўся Лявон, і ён першы пайшоў у народ. Ён не меў грошай, нічога. Апрануў капялюш, кій, мальберт – і пайшоў.

Бард Зміцер Бартосік прачытаў невялікі кавалачак са сваёй кнігі "Клініка кітайскага дантыста", датычны тэмы мерапрыемства і заспяваў пад гітару песню на верш Усевалада Сцебуракі.

racyja.com

Беларусы ў свеце. № 8 (267). Жнівень 2024

навіны

# “ЦІ БУДУЦЬ БЕЛАРУСАЎ ПАВАЖАЦЬ ІНШЫЯ НАРОДЫ, КАЛІ МЫ НЕ МОЖАМ РАЗМАЎЛЯЦЬ НА СВАЁЙ МОВЕ?”


Ігар Случак, Аліна Нагорная і Курт Вулхайзер

У віленскім клубе Paviljonas увечары 12 жніўня быў аншлаг, нягледзячы на панядзелак і сур’ёзнасць тэмы: беларуская мова сёння, мова ў эміграцыі і ў Беларусі, далейшыя перспектывы. Было відэа па кнізе “Мова 404”, дыскусія, у тым ліку з амерыканскім беларусістам Куртам Вулхайзерам, і на завяршэнне – камерны і шчыры канцэрт Лявона Вольскага.

Кніга “Мова 404” накладам у 500 асобнікаў выйшла ў 2021 годзе. Пад адной вокладкай Аліна Нагорная сабрала гісторыі беларусаў, якія сутыкнуліся з моўнай дыскрымінацыяй у розных сферах. Паводле аўтаркі, кніга задумана, каб паказаць і асэнсаваць маштаб праблемы, і такім чынам зрабіць першы крок да яе вырашэння. У 2024-м было прэзентавана дапоўненае перавыданне з новымі гісторыямі людзей, храналогіяй моўнай палітыкі ў Беларусі апошніх стагоддзяў, ілюстрацыямі. Таксама “Мова 404” зараз даступная анлайн для бясплатнага чытання.

Прыводзім найбольш цікавыя, магчыма, часам спрэчныя выказванні ўдзельнікаў вечарыны-дыскусіі, якую вёў кіраўнік фонду *BYSOL* Андрэй Стрыжак.

Амерыканскі лінгвіст, выкладчык Бостанскага каледжа Курт Вулхайзер апошнія два месяцы даследуе ў Польшчы і Літве “моўныя аўтабіяграфіі” і моўны узус беларусаў: “Мне як чалавеку, які вывучае моўную беларускую сітуацыю яшчэ з пачатку 1990-х гадоў, здаецца, што ёсць пэўныя пазітыўныя зрухі ў параўнанні з тым, што было ў канцы 1980-х і на пачатку 1990-х гадоў. Сам я апошні раз быў у Беларусі ў 2019 годзе. Мне тады падалося, што я нашмат часцей чую беларускую мову ў розных сітуацыях, моладзь, мне здаецца, больш пачала цікавіцца мовай.

Цяпер вельмі шмат людзей вымушана з’ехала з Беларусі. Цікава, што ў гэтым асяроддзі вельмі шмат людзей вырашыла перайсці на беларускую мову, асабліва пасля пачатку ўварвання Расіі ва Украіну. Я сёлета праводжу даследаванне наконт ролі беларускай мовы сярод новай беларускай дыяспары. Сапраўды, як бачу са сваіх інтэрв’ю, беларусы сталі часцей карыстацца беларускай мовай, прынамсі, у гэтым асяроддзі. Але, думаю, і ў самой Беларусі цікавасць да мовы расце. Магчыма, у цяперашніх палітычных умовах гэта даволі складана, ёсць пэўная небяспека ў гэтым, але, здаецца, перспектывы добрыя”.

### Як хутка і ці стане ўвогуле беларуская мова афіцыйнай у камунікацыі?

Моўны актывіст, праваабаронца Ігар Случак: “Я заўжды вялікі аптыміст. (…) Мова стане мовай афіцыйнай камунікацыі, калі палітычны рэжым сапраўды зменіцца. Тады проста трэба вярнуцца да законаў, якія былі да дзяржаўнага перавароту 1996 года. Бо фармальна і зараз дзейнічае Канстытуцыя 1994-га, па якой беларуская мова з’яўляецца адзінай дзяржаўнай, а руская мае статус мовы міжнацыянальных зносін. Таму калі мы вернемся да законнасці, то лагічна, што ўся дзяржаўная камунікацыя павінна весціся на беларускай мове. Лічу, што пераходны перыяд павінен быць кароткі. Зянон Пазьняк радыкальна казаў, што павінна быць 10 гадоў на пераход. Я ж лічу, што дастаткова трох месяцаў для любога беларуса, каб перайсці на беларускую мову без праблем”.

Курт Вулхайзер: “На мой погляд, трэба прыглядзецца да ўкраінскага досведу, у гэтай краіне ўсходняя частка даволі моцна адрознівалася што да мовы ад заходняй. Беларусь больш аднародная ў гэтым плане, больш падобная да Усходняй і Паўднёвай Украіны. Думаю, патрэбны менш радыкальны падыход, за год ці два наўрад ці рэальны пераход, а вось –



як Пазьняк казаў – 10 год на гэта. Хаця шмат чаго залежыць ад таго, што адбудзецца пасля сыходу пакалення Лукашэнкі, а гэта вельмі важны фактар. Мне асабіста вельмі складана зрабіць прагноз, але чаму не ўлічыць досвед краін Заходняй Еўропы, калі гаварыць пра Беларусь? Вось, напрыклад, Каталонія, хаця вядома ж, гэта не цалкам незалежная краіна, але з сур'ёзнай аўтаноміяй. Што там адбылося пасля смерці дыктатара Франка? Паступова пачалі распаўсюджваць каталонскую мову ў розных сферах, гэты працэс ішоў каля 20 гадоў. Пры гэтым была свая спецыфіка: каталонцы ў большасці сваёй захавалі сваю мову і пры Франка. Тобок нават у такой, больш спрыяльнай да мовы сітуацыі, ім усё роўна даволі доўга прыйшлося дасягаць сённяшняга ўзроўню".

Андрэй Стрыжак заўважае: "Але побач з Каталоніяй ёсць Валенсія з падобнай мовай і сітуацыяй. Але ў Каталоніі – абавязковая пачатковая адукацыя на каталонскай, у Валенсіі ж грамадзянам даецца выбар. І пры калісьці аднолькавых стартавых умовах зараз сітуацыі там вельмі розныя, не на карысць Валенсіі".

### "Беларуская мова мусіць стаць выгаднай і прэстыжнай"

Акрамя пакалення Лукашэнкі, ёсць новае пакаленне, якое задаволена цяперашняй сітуацыяй, у тым ліку і моўнай, "яны бачаць сябе ў гэтай сістэме, што з імі рабіць, як да іх звяртацца – яны яшчэ доўгі час будуць шмат што вырашаць у грамадстве".

Ігар Случак: "Я ўсё ж такі лічу, што беларусы, нават якія добра не ведаюць беларускую мову, могуць яе даволі лёгка засвойваць. Я бачу, што тыя, хто сышоў з сістэмы ў наш дэмакратычны лагер, даволі лёгка перайшлі на беларускую і карыстаюцца ёю без праблем. Калі змены адбудуцца, то лукашэнкаўская сістэма таксама будзе змяняцца, пераходзіць да беларускай мовы, бо гэта будзе выгадна, альбо папросту прэстыжна. Галоўнае, стварыць запатрабаванасць у мове. Вярнуцца да каранёў, якія мы страцілі. Не будзе вялікай цяжкасці перайсці людзям сістэмы на беларускую мову. Скажу, што нават зараз я гэта бачу ў адказах чыноўнікаў на мае звароты наконт мовы. Пасля 2020 года я часта адчуваю нават нейкую прыязнасць, пазітыў у адказах, ідуць на кантакт, змяняюць шыльды, на таварах надпісы і г.д.".

### Ці магчыма захаваць сваю мову (якая і так у хваравітым стане) у эміграцыі?

Курт Вулхайзер: "У межах свайго даследавання я якраз хачу даведацца пра ролю беларускай мовы ў стварэнні беларускай супольнасці за мяжой. У першую чаргу ў Польшчы і Літве, бо большасць выехалых асела менавіта ў гэтых краінах. У фокус-групах, якія я праводжу з так званымі новымі беларускамоўнымі, яны самі кажуць, што ў эміграцыі чуюць больш беларускай мовы, чым чулі ў самой Беларусі. Многія кажуць, што беларускамоўным чалавекам быць лягчэй у эміграцыі, чым на радзіме. А чаму гэта так? Вось адзін у Беластоку казаў, што тут не адчуваеш ціск расійскамоўнай дзяржавы на сабе. Гэта суб'ектыўнае меркаванне, але, думаю, ёсць доля праўды ў гэтым. А што тычыцца захавання мовы ў іншых краінах, то тут шмат залежыць ад нацыянальнай групы і стаўлення дзяржавы. Украінцы паспяхова захавалі сваю мову, асабліва дыяспара ў Канадзе, у тым ліку і таму, што канадская дзяржава спрыяла гэтаму. Шмат фактараў".



Андрэй Стрыжак

### Практыкаваць беларушчыну

Ігар Случак: "Хачу зрабіць напрыканцы сустрэчы пасыл для тых беларусаў, хто быў змушаны пакінуць Беларусь. Зараз на вас не ціснe рускамоўная беларуская дзяржава, зараз вы бачыце іншыя народы, іншыя краіны. Вы бачыце, што ўсе народы, сярод якіх вы жывяце, размаўляюць на сваёй мове. Я проста прашу вас: размаўляйце паміж сабой па-беларуску, пакажыце, што вы беларусы, проста паважайце сябе, бо нас не будуць ніколі паважаць за тое, што мы не можам размаўляць на сваёй мове".

Аліна Нагорная: "Мы павінны камунікаваць між сабой па-беларуску, мы павінны ствараць умовы для адукацыі дзяцей, бо мы ж хочам вярнуцца. А калі вярнуцца, то ствараць нашу Беларусь, не рускамоўную і не расейскую. (…) Мы павінны ствараць умовы, каб мова захоўвалася не як нешта дэкаратыўнае, а менавіта як сродак камунікацыі людзей краіны між сабой".

Курт Вулхайзер: "Я ўжо амаль два месяцы ў Польшчы і Літве сярод беларускай дыяспары назіраю цікавыя ініцыятывы. У Варшаве столькі розных мерапрыемстваў на беларускай мове, напрыклад, ёга на мове, медытацыя на мове і процьма іншых. Мне падаецца, гэта вельмі важна для захавання мовы. Такая дзейнасць вельмі важная для папулярызацыі мовы, і ў беларускай эміграцыі ёсць вельмі вялікі патэнцыял для таго, каб рабіць беларускую мову агульнай для ўсіх беларусаў".

Лявон Вольскі распачаў свой канцэрт кароткім уступам: "Шмат чаго можна казаць пра беларускую мову і яе праблемы. Але, мне здаецца, усё вельмі проста. Трэба прыходзіць да ўлады, трэба мяняць гэтую ўладу – і зменіцца ўсё і з беларускай мовай. Даўно маем ва ўладзе людзей, якія беларускую мову лічаць чымсьці тым, што засталося ў тым калгасе, з якога яны выйшлі".

**Рыгор Сапежынскі, budzma.org**

# У БЕЛЬСКУ ПРАЙШЛА ПРЭМ'ЕРА ФІЛЬМУ, ПРЫСВЕЧАНАГА НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ

Прэм'ера дакументальнага фільма "Пабыць у часе, які прайшоў" пра асобу і паэзію Надзеі Артымовіч, адбылася ў Бельскім доме культуры.



Паказ прайшоў учора ў рамках юбілейнага 30-га фестывалю "Спасаўскія запусты", які пачаўся ў Бельску-Падляшскім.

У фільме можна ўбачыць і пачуць Надзею Артымовіч, паслухаць песні на яе вершы барда Алега Кабзара. Але ў аснове сваёй карціна сатканая з выказванняў тых, хто быў знаёмы з Надзеяй Артымовіч, на каго значны ўплыў аказала яе паэзія.

А вось рэжысёр стужкі Марэк Уладзіміраў не толькі асабіста не знаўся з паэткай, а нават нічога пра яе не ведаў. Таму яму адкрывалася постаць знакамітай бяльшчанкі ў працэсе працы над дакументальнай стужкай.

Кажа дырэктарка Бельскага дома культуры Эльжбета Фіёнік:

– Гэта ёсць, праўду кажучы, інтэрв'ю з рознымі людзьмі, якія супрацоўнічалі з Надзяй, ведалі яе, спроба разумення яе творчасці. У гэтым фільме выказваюцца проста пра яе асобу, пра яе філасофію. Я думаю, і вершы, якія яна пісала, і гэты сцэнар фільма, ён сціплы, як сціпла да важнага слова ставілася Надзя.

У Бельскім доме культуры ўжо плануюцца наступныя паказы дакументальнага фільма пра Надзею Артымовіч. Чакаецца, што фільм будзе ўключаны таксама ў праграму сёлетняй "Бардаўскай восені".

**racyja.com**

**навіны**

# З'ЯВІЎСЯ НОВЫ МАБІЛЬНЫ ДАДАТАК ДЛЯ ЗНАЁМСТВАЎ, АДМЫСЛОВА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

7 жніўня 2024 выйшаў у свет новы мабільны дадатак пад назвай "Віт!", які дапаможа беларусам знаёміцца і ствараць сувязі.




### Для каго гэты дадатак?

"Віт!" створаны адмыслова для беларусаў.

Жыхарам дыяспары ён можа дапамагчы пазнаёміцца з суседзямі-беларусамі, знайсці сяброў для дзіцяці, ці кампанію для сумесных актыўнасцяў (пакатацца на ровары, схадзіць у грыбы).

У Беларусі з дапамогай дадатку можна знайсці кампаньёнаў для практыкі беларускай мовы. Таксама ёсць мапа устаноў, дзе вас дакладна абслужаць па-беларуску. З цягам часу мапа будзе пашырацца.

Таксама даступныя і рамантычныя знаёмствы.

### Гісторыя стварэння

Ідэя дадатку нарадзілася на пачатку 2024 года, калі ў СМІ актыўна ўзгадвалася патрэба ў "беларускім ціндары". Праца была пачата ў сярэдзіне красавіка 2024 года, і праз тры з паловай месяцы дадатак быў гатовы.

"Бэта-тэставанне праводзілася як сярод беларусаў у Беларусі, так і сярод дыяспары. Мы атрымалі шмат водгукаў і пажаданняў, якія былі ўлічаны пры распрацоўцы канчатковай версіі", – кажуць стваральнікі дадатку.




### Асаблівасці дадатку

• Інтэрфэйс цалкам на беларускай мове

• Бясплатны доступ да ўсіх функцый

"Тое, што ў іншых лічыцца прэміумам, у Віт даступна адразу кожнаму", – запэўніваюць распрацоўшчыкі.

• Спіс і карта беларускамоўных устаноў, якая з цягам часу будзе пашырацца.

"Паважаныя гаспадары беларускамоўных месцаў, тут можа быць ваша рэклама", – запрашаюць да супрацы аўтары дадатку.

### Планы на будучыню

Аўтары дадатку галоўнай задачай на найбліжэйшы час бачаць неабходнасць набраць пэўную колькасць аўдыторыі і звяртаюцца да самых хуткіх карыстальнікаў, якія зарэгіструюцца першымі:

"Калі ласка, не здзіўляйцеся напачатку пабачыць нешматлікую колькасць людзей са свайго горада, проста трошачкі пачакайце. Таксама вы можаце паскорыць працэс калі распаўсюдзіце інфармацыю пра "Віт!" непасрэдна ў сваёй лакацыі.

Што будзе далей, у якім кірунку будзе рухацца праект – цалкам залежыць ад карыстальнікаў. Мы будзем збіраць зваротную сувязь і рэагаваць адпаведна".

### Як падтрымаць праект

Карыстальнікі, якім дадатак прынясе карысць, ці проста спадабаецца ідэя, могуць аддзячаць фінансава.

Аднаразовы унёсак складае ўсяго 1 еўра, а падпіска – 0.5 еўра.

### Спампаваць дадатак

Для атрымання дадатковай інфармацыі і тэхнічнай падтрымкі можна звязацца з камандай праз тэлеграм-бот тэхнічнай падтрымкі https://t.me/vit_app_bot.

IOS

Android

budzma.org

## Беларускі каляндар памятных дат на верасень 2024 года

**1 верасня**
• 85 гадоў таму, у 1939-м, памёр Язэп Горыд, жывапісец.

**2 верасня**
• 90 гадоў таму, у 1934-м, памёр Мікалай Ільяшэвіч, гісторык, географ.

**4 верасня**
• 195 гадоў таму, у 1829-м, нарадзіўся Ігнат Доўнар, музыкант, фатограф. Памёр у 1865-м.
• 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Хведар Імшэнік, літаратуразнавец.

**5 верасня**
• 310 гадоў таму, у 1714-м, нарадзіўся Міхаіл Карыцкі, паэт. Памёр у 1781-м.
• 20 гадоў таму, у 2004-м, памёр Алесь Асташонак, пісьменнік.

**8 верасня**
• Дзень беларускай вайсковай славы

**9 верасня**
• 85 гадоў таму, у 1939-м, нарадзіўся Уладзімір Шурпа, паэт. Памёр у 1998-м.

**14 верасня**
• 140 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Фабіян Абрантовіч, уніяцкі духоўнік, філосаф. Памёр у 1946-м.
• 60 гадоў таму, у 1964-м, памёр Язэп Пушча (сапр. Плашчынскі), паэт.

**16 верасня**
• 165 гадоў таму, у 1859-м, нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла, мовазнавец, літаратуразнавец. Памёр у 1934-м.

**17 верасня**
• 85 гадоў таму, у 1939-м, адбылося далучэнне Заходняй Беларусі да БССР.
• 75 гадоў таму, у 1949-м, нарадзіўся Генадзь Карпенка, грамадска-палітычны дзеяч, вучоны. Памёр у 1999-м.

**20 верасня**
• 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Базыль Камароўскі, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

**21 верасня**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Дзмітрый Касмовіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і эміграцыі ў Бельгіі і Нямеччыне. Памёр у 1999-м.

**25 верасня**
• Нарадзіўся Яўген Смаршчок, прафесар, святар БАПЦ, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі. Памёр у 1984-м.

**27 верасня**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вашына), пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**30 верасня**
• 90 гадоў таму, у 1934-м, памёр Мітрафан Доўнар-Запольскі, гісторык, эканаміст, этнограф, адзін з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі.
• 85 гадоў таму, у 1939-м, памёр Стары Улас (сапр. Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі), паэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (267), жнівень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com